**І ГЭТА ТАК!**

# Гомельскія НАВІНКІ

**Жоўтая газетка на роднай мове** САКАВІК 2012

**Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну**







**Правасуддзе па-гомельску**

стар. 5

**СПЕЦЫЯЛІСТ ПА СУВЯЗЯХ З ГРАМАДСКАСЦЮ ПЕЦЯ ЯКА-БЫЧНА З ГАНЬБАЙ ЗВОЛЬНЕНЫ З “ГОМЕЛЬСКІХ НАВІНАК”**

стар. 8

# КДК: У некаторых сталоўках Гомеля рабочых кормяць дорага і пратэрмінаванымі прадуктамі

***Праверкі рабочых сталовых на прадпрыемствах Гомеля выявілі шэраг парушэнняў тэхналогіі прыгатавання страў, бяспекі харчовых прадуктаў і санітарных норм.***

Як паведамілі ў Камітэце дзяржкантролю Гомельскай вобласці, ва ўсіх шасці правераных сталовых (РУП «Гомельэнерга» і «Гомельскі завод гідрапрывад», а таксама ААТ «Гомельскі ліцейны завод «Цэнтраліт», «8 Сакавіка», «Гомельскі аўтарамонтны завод» і «Электраапаратура») былі ўстаноўленыя факты недакладання прадуктаў (у сярэднім у 43% адабраных для даследавання страў). Дзе-нідзе недакладанні мелі месца ва ўсіх даследаваных стравах.

Напрыклад, у сталовай РУП «Гомельэнерга» колькасць тлушчу ў пярловым супе з грыбамі і ў варанай свежай капусце склала менш за палову ад нормы, а ў бульбяным пюрэ — 25%.

Персаналу сталовай завода «Цэнтраліт» заканчэнне тэрмінаў прыдатнасці некаторых прадуктаў (свініны, сметанковага масла, сыру) на 43–80 сутак не перашкодзіла выкарыстаць іх для прыгатавання другіх страў, салатаў і гарніраў. А ўсяго на кухні і на складзе завода са скончаным тэрмінамі прыдатнасці знаходзілася прадуктаў на 1,3 млн. рублёў.

Аналагічныя факты захоўвання прадуктаў, тэрмін прыдатнасці якіх выйшаў, выяўленыя ў сталовых РУП «Гомельэнерга» і ААТ «Гомельскі аўтарамонтны завод» —

тут тэрмін прыдатнасці гарнірных буракоў у трохлітровых слоіках закончыліся 1–3 гады таму.

Апрача таго, на ўсіх правераных аб’ектах харчавання выяўленыя шматлікія парушэнні санітарных норм і правілаў. Так, на ААТ «8 Сакавіка», дзе працуюць 1.579 чалавек, у тым ліку 600 — у другую змену, харчаванне рабочых для другой змены наогул не было арганізаванае.

Праверкі таксама паказалі, што наймальнікі і прафсаюзныя камітэты не надаюць належнай увагі стварэнню ўмоў для харчавання сваіх работнікаў, а таксама пытанням патаннення кошту харчавання. Кошт харчавання не толькі не рабіўся меншым за кошт сродкаў прадпрыемства, але наадварот — на большасць страў прымянялася максімальная нацэнка ў памеры 50%. Такія факты зафіксаваныя на прадпрыемствах «Цэнтраліт», «8 Сакавіка», «Гомельскі аўтарамонтны завод», «Электраапаратура». Разам з тым завод «Гідрапрывад» і «Гомельэнерга» памер нацэнкі на стравы ўласнага прыгатавання абмежавалі 10%. Як вынік, наведвальнасць сталовых работнікамі прадпрыемстваў вельмі нізкая і складае ад 6% да 25% працуючых.

ПРАПАГАНДА

Дасканалы механізм.

Па выніках праверак абласным КДК будзе прыменена адміністрацыйная адказнасць да прадпрыемстваў і службовых асоб.

Пастанова Саўміна «Аб стварэнні ўмоў для харчавання работнікаў», згодна з якой наймальнікам і прафсаюзным арганізацыям рэкамендавана ў 2012 годзе ўключыць у калектыўныя дагаворы пытанні стварэння ўмоў для харчавання работнікаў і патаннення яго кошту, уступіла ў сілу 15 лютага.

*БелаПАН*

# Lesley Knife заспяваў па-беларуску

***Гэта адбылося 30 сакавіка ў Менску на канцэрце прысвечаным 20-годдзю гурта Gods Tower. Па-беларуску была выканана кампазіцыя «People in the Swamp» — «Людзі на балоце».***

1) У тым самотным краі,
Дзе змоўкне вецер, дзе не пройдзе шлях,
Дзе дрэвы паміраюць, -
Няма надзеі з воляю ў вачах.
Паміж пустэльняў – багна,
Дзе кожны цягне свой уласны горб,
Сапраўдны край маўчаньня –
Балота і насельніцтва яго…

2) Між дрэў пахілых, мокрых
Надзеі з воляй не здабыў ніхто.
Жыццё, нібы акторка,
Што ў зале гіне, змрочнай і пустой.
Карчамі ў плыні соннай
Сабе плывуць бязвольна проста ўніз,
За дах, за хлеб надзённы –
Што ж трэба тым, хто вырас у хлусні?

3)Між дзвюх пустэльняў – багна,
І ўласны горб тут цягне кожны з нас
Як стаць на штосьці вартым,
Калі ідзеш па купінах увесь час?
У вечным недаверы:
Сусед пільнуе, каб забраць твой дом,
Пад сонцам здрады шэрым
Глынае багна нас усіх жыўцом…

4) Сапраўдны край маўчаньня –
Балотны край з насельніцтвам сваім.
Адмовіўшы змаганьне,
Ці ж ты, як корч, не стаў зусім глухім?
Казаць далей не варта.
За “дабрабыт” прадаў свой дух дарма.
І час прамовіць праўду:
Жывы тапелец, шанцаў больш няма.

*Аўтар пераклада – Ганна Аўчыннікава*

*http://metalscript.net*



# Заўзятар мінскага «Дынама», які пацярпеў у бойцы фанатаў, у цяжкім стане

***Сутычка фанатаў адбылася, 25 сакавіка, у Гомелі перад матчам 1-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.***

Паводле інфармацыі розных крыніц, колькасць заўзятараў, якія ўдзельнічалі ў бойцы, складала ад 9 да 20 чалавек, прычым абсалютная большасць з іх былі фанатамі каманды гаспадароў.

У ходзе збіцця адзін з мінскіх фанатаў атрымаў чэрапна-мазгавыя траўмы і знаходзіцца цяпер у Гомельскай абласной клінічнай лякарні ў цяжкім стане.

*sport.tut.by*




"А я страляў у людзей!" Усе спалохана заціхлі але адзін чалавек запытаўся: "Калі вы ужо спадар пачнеце набываць сабе цыгарэты?"

# Толькі траціна апытаных жыхароў Гомельшчыны поўнасцю давяраюць міліцыі

***Са станоўчага боку працу супрацоўнікаў органаў унутраных спраў ацэньваюць большасць апытаных жыхароў Гомельскай вобласці, паведамілі ў прэс-службе УУС Гомельскага аблвыканкама.***

Больш за 80% рэспандэнтаў задаволеныя аператыўнасцю рэагавання міліцыі на звароты, больш за 60% — прынятымі мерамі. Негатыўна адклікаюцца аб прынятых па зваротах мерах амаль 20%.

Аднак толькі 32,5% апытаных поўнасцю давяраюць міліцыі (з 2010 года гэта лічба практычна не змянілася). Самы нізкі працэнт даверу адзначаны ў Рагачоўскім і Лоеўскім раёнах — па 25%. Больш за 26% апытаных грамадзян не бачаць вынікаў дзейнасці ўчастковых інспектараў.

Звыш 42% лічаць міліцыянераў ветлівымі і ўважлівымі, амаль 38% — прафесіяналамі.

У прэс-службе дадалі, што на нядаўняй прэс-канферэнцыі начальнік УУС Валерый Палішчук заявіў, што часцей за ўсё звальняе супрацоўнікаў, якія не могуць працаваць добрасумленна, і што негатыўнае меркаванне пра міліцыю складаеццаз-за фармалізму ў працы некаторых супрацоўнікаў.

Палішчук паведаміў, што некаторыя міліцыянеры звольніліся, каб уладкавацца на працу ў РФ — з-за розніцы ў зарплатах. У 2011 годзе з органаў унутраных спраў Гомельскай вобласці для працаўладкавання ў РФ звольніліся 47 міліцыянераў, галоўным чынам сяржанты. Але толькі адзін з іх уладкаваўся на працу ў расійскай паліцыі, астатнія — галоўным чынам ахоўнікамі. Паводле слоў Палішчука, многія ўжо вярнуліся на радзіму.

Некаторыя гомельскія міліцыянеры гатовыя пераехаць у райцэнтры, таму што там жыццё таннейшае і на прымальных умовах можна пабудаваць жыллё, адзначыў Палішчук. Паводле яго слоў, у апошнія месяцы сітуацыя з кадрамі стабілізавалася і міліцыянеры ўжо не звальняюцца і не едуць у Расію ў пошуках заробку.

*БелаПАН*




Амэрыканец, француз і віетнамец вядуць дыскусію пра шчасьце жыцьця.

Амэрыканец кажа:

— Для мяне шчасьце — гэта вярнуцца дадому, зьесці выдатную вячэру, паглядзець на канапе футбол.

Француз:

— Вы, амэрыканцы, такія нерамантычныя. Для мяне шчасьце — гэта выдатны вечар з маёй палюбоўніцай, мы шпацыруем па горадзе, вячэраем у дарагой рэстарацыі, а потым усю ноч займаемся каханьнем.

Віетнамец:

— Вы называеце усё гэта шчасьцем? Я вам раскажу, што такое шчасьце. Уявіце: ноч, вы моцна сьпіце і раптам чуеце гучны грукат у дзьверы: «Грамадзянін Нгуен Ван Бінь, адамкніце дзьверы!» Абліваючыся халодным потам, вы сьпяшаецеся, адмыкаеце дзверы, а там стаяць два паліцэйскія, гатовыя надзець на вас кайданкі. Адзін зь іх кажа: «Грамадзянін Нгуен Ван Бінь, вы арыштаваныя за антыўрадавую дзейнасьць і будзеце адпраўленыя ў працоўны лягер на нявызначаны пэрыяд часу». І тут вы адказваеце: «Таварыш Нгуен Ван Бінь жыве па суседстве». Вось гэта сапраўды шчасьце!

# Правасуддзе па-гомельску

***У Гомелі суд не задаволіў іск жанчыны, якую прыцягнулі да адміністрацыйнай адказнасці, пераблытаўшы яе з цёзкай па прозвішчы***

Суд Савецкага раёна Гомеля адмовіў жыхарцы абласнога цэнтра Людміле Міраненцы ў задавальненні іску аб спагнанні маральнай шкоды з раённай адміністрацыі.

Як паведаміў праваабаронца Леанід Судаленка, адміністрацыйная камісія пры адміністрацыі Савецкага раёна ў 2010 годзе незаконна аштрафавала жанчыну, а суд адмяніў гэтую пастанову. Поўная цёзка Людмілы Міраненкі парушыла правілы гандлю.

Аднак адміністрацыйная камісія не разабралася і прыцягнула да адказнасці невінаватую грамадзянку з-за поўнага супадзення пашпартных даных. Людміла Міраненка была аштрафаваная.

Жанчына паўгода спрабавала даказаць сваю невінаватасць. Яна звярнулася ў суд, і пастанова камісіі была адмененая. У пратаколе аб правапарушэнні супрацоўнікі камісіі сфальсіфікавалі асабісты подпіс Міраненкі, што пацвярджаецца заключэннем экспертызы.

Незаконнае прыцягненне да адміністрацыйнай адказнасці, якое пацягнула прычыненне маральнай шкоды, жанчына ацаніла ў 10 млн. рублёў. "Фальсіфікацыя з боку камісіі зняважыла маю чалавечую і грамадзянскую годнасць, прымусіла мяне працяглы час адчуваць сваю безабароннасць перад самавольствам і ўсёдазволенасцю дзяржаўных органаў, усумніцца ў дзейснасці прынцыпу законнасці і справядлівасці. Я была ў роспачы і безвыходнасці. Мае маральныя пакуты выяўляюцца ў адчуванні трывогі, пастаяннага неспакою на працягу паўгода судовага разгляду і да моманту адмены незаконнай пастановы і спынення адміністрацыйнай справы", — напісала ісцец у скарзе ў суд.




БУДЗЬ БАБРОМ!!!

Тым не менш суд палічыў, што жанчына не мае права на пакрыццё маральнай шкоды, бо яна не адбывала арышт, а ўсяго толькі была пакараная штрафам. "Толькі чалавек сам можа вызначыць, пацярпеў ён маральна, ці не, а не суд. Права грамадзяніна на кампенсацыю маральнай шкоды гарантаванае Канстытуцыяй. Рашэнні суда першай інстанцыі супярэчаць пастанове пленума Вярхоўнага суда "Аб практыцы ўжывання судамі заканадаўства, якое рэгулюе кампенсацыю маральнай шкоды", паколькі адказчык, з'яўляючыся дзяржаўным органам, незаконна прыцягнуў жанчыну да адміністрацыйнай адказнасці, што прычыніла ёй значную маральную шкоду", — пракаментаваў праваабаронца.

Ён дапамог Людміле Міраненцы скласці касацыйную скаргу ў Гомельскі абласны суд, дзе грамадзянка будзе абскарджваць рашэнне суда Савецкага раёна.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

Першай жанчынай рэінкарнацыяй Гаутамы Будды была беларуска Буда Кашалёва , што жыла непадалёк ад мястэчка Карма(Гомельская вобласць)

# Гамяльчанін пакінуў 8,6 тыс. доляраў у прададзенай расіянам машыне

***Як паведаміў супрацоўнік аддзела інфармацыі і грамадскіх сувязей гомельскага УУС Ігар Грышкевіч, 24 сакавіка мужчына прадаў на рынку аўтамабіль грамадзянам Расіі, а праз некалькі гадзін выявіў, што грашовая выручка — 8,6 тыс. доляраў — знікла.***

Паводле слоў Грышкевіча, для падстрахоўкі пры продажы прысутнічаў сябар прадаўца аўтамабіля. Аформіўшы дакументы, пералічыўшы грошы, яны папрасілі новых гаспадароў аўто давезці іх да месца жыхарства. Развітаўшыся з расіянамі, прадаўцы зайшлі ў магазін, а затым адправіліся на кватэру да аднаго з іх адзначаць паспяховую здзелку.

Толькі ў канцы дня мужчына выявіў, што грошы зніклі. Удвух з сябрам яны абшукалі кватэру, у якой адзначалі продаж, а таксама звярнуліся ў магазін, дзе затаварваліся, аднак грошай нідзе не было. Пасля гэтага мужчына звярнуўся ў міліцыю.

Праваахоўнікі правяралі відэазапісы з камер назірання ў магазіне, а таксама дапыталі сябра прадаўца. Абодвух нават праверылі на дэтэктары хлусні, які пацвердзіў, што яны кажуць праўду.




Праз натарыяльную кантору супрацоўнікі міліцыі ўстанавілі асобы расіян і звязаліся з расійскімі калегамі з Бранскай вобласці. Ужо праз некалькі гадзін прыйшло паведамленне, што грошы знайшліся:

у эйфарыі пакупнік проста паклаў пакет з доларамі ў свой толькі што прададзены аўтамабіль.

«27 сакавіка расіяне прывезлі ўсю суму і перадалі яе гамяльчаніну, для якога нарэшце закончыліся бяссонныя ночы, а для дзясятка супрацоўнікаў міліцыі — штодзённыя пошукі. Крымінальная справа так і не была распачата, бо расіяне добраахвотна аддалі грошы і не спрабавалі іх прысвоіць», — дадаў супрацоўнік аддзела.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# Жыхарка Гомеля добраахвотна выдала КДБ рэвальвер, два абрэзы і 100 патронаў

***Жыхарка Гомеля добраахвотна выдала КДБ рэвальвер, два абрэзы і 100 патронаў***

Рэвальвер сістэмы наган, абрэзы дзвюх паляўнічых стрэльбаў, больш за сто патронаў рознага калібру да гладкаствольнай і наразной агністрэльнай зброі выдала супрацоўнікам упраўлення КДБ жыхарка Гомеля. Паводле слоў жанчыны, гэты арсенал яна знайшла, разбіраючы старыя рэчы ў кватэры сваіх бацькоў-нябожчыкаў.

Як паведамілі БелаПАН у прэс-групе УКДБ па Гомельскай вобласці, па гэтым факце праводзіцца праверка, зброя і боепрыпасы адпраўлены на экспертызу.

У прэс-групе адзначылі, што дзеянні гамяльчанкі з'яўляюцца прыкладам паводзін у такіх сітуацыях: у адпаведнасці з законам, грамадзяне, якія добраахвотна выдалі зброю і боепрыпасы, вызваляюцца ад крымінальнай адказнасці. У адваротным выпадку за незаконныя дзеянні (у тым ліку захоўванне) ў дачыненні да агністрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў прадугледжана крымінальная адказнасць, максімальнае пакаранне прадугледжвае да 12 гадоў пазбаўлення волі.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

## Гомельскі КДК выкрыў медыцыну ў неапраўданым імпарце калапрыёмнікаў

***Міністэрства аховы здароўя і Міністэрства прамысловасці не забяспечылі выканання асноўных мэт і задач Дзяржпраграмы «Белмедтэхніка» у частцы скарачэння імпарту медыцынскіх вырабаў і эканоміі валютных сродкаў.***

Да такой высновы прыйшлі супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнага кантролю Гомельскай вобласці, азнаёміўшыся з рэалізацыяй аднаго з праектаў, прадугледжаных названай праграмай.

У прыватнасці, гаворка ішла аб распрацоўцы тэхналогіі і арганізацыі вытворчасці камбінаваных вонкавых сістэм дэфекацыі (калапрыёмнікаў) для пасляаперацыйных хворых. У рэспубліцы гэтыя вырабы не выпускаліся — даводзілася набываць іх за мяжой. Заказчыкам выступілі Міністэрства аховы здароўя і Мінпрам, выканаўцам — гомельскі «Інстытут механікі металапалімерных сістэм імя. У. А. Белага Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі», які прыступіў да працы ў 2006 годзе. Праз 2 гады інстытут выканаў навукова-даследчую і доследна-канструктарскую працу і здаў дзяржзаказчыкам. У рэалізацыю праекта было ўкладзена больш за 120 000 даляраў, з разлікам на тое, што вельмі хутка гэтыя выдаткі сябе апраўдаюць. Бо, згодна з дзяржпраграмай, пасля запуску серыйнай вытворчасці айчынная медыцына мусіла атрымліваць 300000 такіх вырабаў у год.

Аднак, як высветлілася ў ходзе праверкі, тэарэтычна добрая ідэя на практыцы забуксавала.

Ва ўстаноўленыя тэрміны і ў запланаваных аб'ёмах вырабы не паступілі.

На працягу 2009—2010 гг. іх выпуск па распрацаванай тэхналогіі наогул не ажыццяўляўся. Толькі год таму Гомельскі завод хімічных вырабаў атрымаў рэгістрацыйнае пасведчанне Міністэрства аховы здароўя і прыступіў да вытворчасці, выпусціўшы за 11 месяцаў 102,8 тыс. сістэмаў. Але і з гэтай колькасці было рэалізавана менш за палову, большая ж частка засталася на складах прадпрыемства. Прычынай такой недарэчнай сітуацыі стала… адсутнасць заказаў. У гомельскага завода падведамныя арганізацыі Міністэрства аховы здароўя закупілі толькі 10,6% ад гадавой патрэбнасці ў названых вырабах.

Астатняя колькасць на працягу 2010–2011 гадоў закуплялася, як і раней, па імпарце. Прытым што кошт беларускіх калапрыёмнікаў значна ніжэйшы за імпартныя аналагі.

Іх набыццё «дома» дапамагло б не толькі падтрымаць айчыннага вытворцу, але і зэканоміць больш за 1 млрд. руб. у год з бюджэту аховы здароўя.

Тлумачачы КДК сітуацыю, якая склалася, Міністэрства аховы здароўя прывяло шэраг прычын і абставінаў. І тое, што ўстаноўленыя Дзяржпраграмай аб'ёмы выпуску фармаваліся вытворцам, і тое, што абавязацельствы па закупцы вырабаў на Міністэрства аховы здароўя і аблвыканкамы не ўскладаліся, і тое, што на момант выдачы заводу хімвырабаў рэгістрацыйнага пасведчання ўжо былі зроблены закупкі і заключаны кантракты на пастаўку сістэм дэфекацыі з іншымі пастаўшчыкамі.

Зрэшты, усе гэтыя тлумачэнні належнага ўражання не зрабілі.

«Улічваючы, што ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай «Белмедтэхніка"на 2006 — 2010 гады, Міністэрства аховы здароўя з'яўляецца адным з дзяржзаказчыкаў распрацоўкі і вытворчасці ў Рэспубліцы Беларусь сістэм дэфекацыі, названыя прычыны не могуць быць прыняты пад увагу», — даюць ацэнку ў КДК Гомельскай вобласці і прапануюць Міністэрству аховы здароўя неадкладна прыняць адпаведныя меры.

*ej.by*

## Жыхар Добруша выратаваўся падчас пажару ў лютым, праз месяц усё ж загінуў ад агню

***Пасля выпіскі з бальніцы ён пратрымаўся толькі суткі.***

58-гадовы жыхар Добруша, які змог выратавацца падчас пажару ў лютым, усё ж загінуў ад агню ў сакавіку.

Як паведамілі ў Гомельскім абласным упраўленні МНС, першы пажар адбыўся ў прыватным доме мужчыны 20 лютага, але тады ён паспеў выбрацца самастойна з агню. Затым гаспадар дома адмарозіў ногі і трапіў у бальніцу.

У лячэбнай установе ён вёў асацыяльны лад жыцця — курыў і ўжываў спіртное, у сувязі з чым 13 сакавіка яго выпісалі датэрмінова.

У родных сценах мужчына пражыў каля сутак — у ноч з 14 на 15 сакавіка ён задыхнуўся ад дыму ў выніку пажару.

*БелаПАН*

Спачатку ён кажа, што ўвесь сьвет — гаўно, а пасьля неяк заяўляе: «Ты для мяне — увесь сьвет!».

КЛАСІКА ЖАНРУ ГумНо

# СПЕЦЫЯЛІСТ ПА СУВЯЗЯХ З ГРАМАДСКАСЦЮ ПЕЦЯ ЯКАБЫЧНА З ГАНЬБАЙ ЗВОЛЬНЕНЫ З "ГОМЕЛЬСКІХ НАВІНАК"

***У сувязі з дзеяннямі, што пацянулі за сабой цяжкія фізічныя пашкоджанні грамадзян і гораду і яшчэ больш цяжкія пашкоджанні псыхікі гэтых грамадзян, знішчэнне маёмасці і растрату сродкаў рэдакцыі ў вялікім памеры, за дзеянні, што дэскрыдытуюць нават "Гомельскія Навінкі" спецыяліст па сувязях з грамадскасцю Пеця Якабычна быў звольнены з "Гомельскіх Навінак" з пазбаўленнем права падыходзіць да Вольгі пыхавай і паліны Смолавай на 5 год і права называць сябе былым супрацоўнікам "Гомельскіх Навінак" пажыццёва.***



http://vk.com/petsja_jakabychna

"Гэта адбылося падчас адной с сувязяў з грамадскасцю. Перамовы крыху зацягнуліся і выйшлі з-пад кантролю. Я вельмі раскайваюся і ўжо панёс як маральныя і матэрыяльныя, так і фізічныя пакуты за свой учынак. Я буду рабіць усё каб аднавіць сваё, няхай і ня добрае імя і вярнуцца ў творчы калектыў. Я вальмі выбачаюся перад усімі, бо не памятаю канкрэтна, каму прычыніў шкоду", - так пракаментаваў інфармацыю аб звальненні Пеця Якабычна.

Ганьба ад каментароў адмовіўся.

*Лявон Грос, галоўны рэдактар "Гомельскіх Навінак"*

# Невядомыя збілі грамадскага актывіста Ігара Случака

***У Гомелі ноччу 24 сакавіка невядомыя збілі грамадскага актывіста, каардынатара кампаніі «Справаводства па-беларуску!», студэнта Тартускага універсітэта Ігара Случака. Малады чалавек вяртаўся дахаты ад сяброў, і непадалёк ад дому на яго раптоўна ззаду напалі невядомыя, якія звалілі яго на зямлю і пабілі.***

«Прычым іх цікавіў мабільны тэлефон. Хоць апарат стары і не ўяўляе каштоўнасці. Таксама забралі грошы і дакументы, сярод якіх быў эстонскі від на жыхарства», - патлумачыў Ігар Случак. Пакінулі збітаму толькі беларускі пашпарт. Зараз у яго будуць праблемы з вяртаннем на вучобу у Тарту.

Актывіст не выключае, што гэта было звычайнае рабаўніцтва. «Даволі дзіўная сітуацыя. Але разам з тым, час зараз напружаны, прычым я прыехаў наведаць бацькоў і на Дзень Волі. Напярэдадні парламенцкіх выбараў у 2008 годзе таксама вось напалі як быццам гопнікі і збілі мяне. Праўда, тады іх затрымалі, і судзілі», - дадае Ігар Случак.

Па дадзеным факце ён звярнуўся раніцай 24 сакавіка ў міліцыю, якая вядзе зараз разбіральніцтва.

*http://spring96.org*

M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
"Гомельскія Навінкі сакавік 2012"
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246050, г. Гомель, вул. Мазаева, 17,
рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2012"

Надрукавана на
Папяровай фабрыцы
"ГумНо", г. Клінцы,
вул. Мажаеўская, 17б.

Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.




Мы ў сацыяльных сетках:
***vkontakte.ru:*** http://vk.com/gumno2007
***facebook.com:*** http://www.facebook.com/profile.php?id=100003262396346
***Вольга Пыхава:*** http://vk.com/volha_pyhava

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

